# наша свабода

№81 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 СНЕЖНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Фальстарт

Рыгор БУЯН

Як толькі Вярхоўны суд адмяніў абвінавачвальны прысуд былому прэм'ер-міністру, вынесены гарадскім судом 19 траўня, і перадаў справу на даследаванне Генеральнаму пракурору, Міхаіл Чыгір абвясціў пра пачатак уласнай прэзідэнцкай кампаніі.

Палітык лічыць, што юрыдычна працэдура дадатковага расследавання справы – працяглая ў часе, таму ў яго ёсць час удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.

У інтэрв'ю НАШАЙ СВАБОДЗЕ экс-прэм'ер адзначыў, што падтрымкай дэмакратычных сілаў ён яшчэ не заручыўся, але вельмі спадзяецца на салідарнасць з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, з якой «вельмі цесна супрацоўнічаў раней», ды на Народную Грамаду Міколы Статкевіча.

Міхаіл Чыгір збіраецца прыступаць да фармавання структураў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, касцяк якіх складае каманда, з якою экс-прэм'ер ішоў на апазіцыйныя прэзідэнцкія выбары ў траўні 1999 года (менавіта пасля ўдзелу ў гэтай кампаніі ўлады засадзілі яго за краты на 8 месяцаў). ►

Заканчэнне на стар.3

## Жыць стане лепш, жыць стане весялей

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Падчас нарады 6 снежня А.Лукашэнка паабяцаў «скуру зняць» з урада, калі сярэдні заробак не падвысіцца ў наступным годзе да 100 долараў у месяц, а месячная інфляцыя перавысіць 2,5%. Пры гэтым, кошты пачынаюць расці ўжо ў гэтым месяцы.**

Каб дасягнуць 100-доларавага заробку ў наступным годзе, ураду спатрэбіцца знайсці яшчэ прыкладна 700 мільярдаў рублёў. А.Лукашэнка паабяцаў, што друкарскі станок для гэтага выкарыстоўвацца не будзе. На думку кіраўніка дзяржавы, асноўным рэзервам, з дапамогай якога можна знайсці сродкі, з'яўляецца эканомія сыравіны і энергарэсурсаў, максімальнае скарачэнне выдаткаў.




Як менавіта будзе адбывацца пераход да 100-доларавага заробку? Па словах першага віцэ-прэм'ера Андрэя Кабякова, які таксама ачольвае Дзяржаўную камісію па цэнаўтварэнні, заробак будзе падвышаны ў два этапы, у красавіку і ліпені. Але ўжо ў гэтым снежні беларусы адчуюць негатыўныя наступствы прыбаўкі заробку.

Істотна падвысяцца кошты на праезд у транспарце і жыллёва-камунальныя паслугі. Урад паставіў задачу – каб насельніцтва пакрывала сваімі грашыма 50% рэальнага кошту гарадскіх і транспартных перавозак і 20% аплаты за жытло і камунальныя паслугі. Апроч таго мусяць быць падвышаныя цэны на ялавічыну – на 25%, на звадкаваны газ у балонах – на 40%, на гарэлку – на 5%. І гэта яшчэ не ўсё.

Цікава, як пры гэтым будзе выкананае іншае патрабаванне кіраўніка дзяржавы – каб узровень інфляцыі ў снежні не перавысіў 2%? Бо прагучала недвухсэнсоўная пагроза ў адрас прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына і ягонага намесніка Андрэя Кабякова: «Як толькі пройдзе месяц і высветліцца, што інфляцыя ў рэспубліцы больш за 2%, — вас няма». У 2001 годзе інфляцыя за месяц «па плане» не мусіць перавышаць 2,5%.

А.Лукашэнка папярэдзіў урад пра недапушчальнасць беспадстаўнага росту цэнаў на тавары, якое адбываецца «па прычыне безгаспадарнасці і разгільдзяйства» кіраўнікоў вытворчасці.

Ён таксама паабяцаў не выкарыстоўваць урад у сваёй выбарчай кампаніі: «Урад будзе адхілены ад палітычных пытанняў, вы будзеце займацца толькі эканомікай, я не буду вас пасылаць ні ў вобласці, ні ў раёны агітаваць за Лукашэнку... Я буду на роўных з усімі змагацца за гэтую пасаду, не ўцягваючы урад. Але я з вас скуру буду спускаць...».

У гэты ж дзень завяршылася праца місіі Міжнароднага валютнага фонду ў Мінску. Яна не пакінула беларускім уладам ніякіх спадзяванняў на крэдыт. Кіраўнік місіі Марта дэ Кастэла-Бранка заявіла, што «ўлады Беларусі прызнаюць неабходнасць правядзення макраэканамічных рэформаў» і што «Беларусь зацікаўленая ў супрацоўніцтве з МВФ». Але на гэтым усё і заканчваецца. Краўніцтва МВФ цудоўна ведае, што паміж «разуменнем» неабходнасці рэформаў і іх правядзеннем існуе вялікая розніца. ■

## НАВІНЫ

■ **Са снежня за кватэры давядзецца плаціць яшчэ болей.** Пастановай міністэрства эканомікі плата за тэхнічнае абслугоўванне жылых памяшканняў павялічылася з 7,89 да 8,49 рубля за квадратны метр агульнай плошчы. На 7,6% узраслі тарыфы на камунальныя паслугі: халодную і гарачую ваду, газазабеспячэнне і карыстанне ліфтам.

■ **У Дзяржынскім раёне ў 2001-2006 гадах будуць пабудаваныя 20 ветраэнергетычных станцыяў.** Першую з іх на 250 кілават узвядуць увесну наступнага года. У Дзяржаўным камітэце па энергазберажэнні і энерганаглядзе кажуць, што наогул у патэнцыяле з ветраэнергетычных установак Беларусь можа мець 6,5 мільярда кілават-гадзінаў.

■ **На фабрыцы «Камунарка» абяцаюць, што да Калядаў зробяць паўтара мільёна падарункаў**. У залежнасці ад колькасці і віду цукерак, што ўвойдуць у іх, падарункаў выпусцяць 7 розных найменняў.

■ **Учора ў італьянскім Антхольцы распачаўся другі этап біятлоннага Кубка свету**. Вынікі ўчарашняй мужчынскай гонкі на 10 кіламетраў: першы – адзін з лідэраў сусветнага біятлону француз Рафаэль Пуарэ. За ім расіянін Павел Растоўцаў. Трэці – нарвежац Оле-эйнар Б'ёрндален. Зноў як і тыдзень таму без узнагародаў засталіся беларусы. Лепшы з іх — Вадзім Сашурын паказаў 14-ы вынік, толькі 36-й у жанчын была наша Кацярына Грыгор'ева. Жаночая і мужчынская эстафеты пройдуць адпаведна ў суботу і нядзелю.

## Падзел свету па-беларуску

Міхась КАРПОВІЧ

Новы міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў вызначыў новыя прыярытэты дзейнасці Беларусі ў знешнепалітычным накірунку. Першае ганаровае месца адведзенае Расіі. Супрацоўніцтва з ЗША – толькі на шостым.

Па словах М.Хвастова, які займае і пасаду віцэ-прэм'ера, першы прыярытэт для Беларусі – далейшае развіццё палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва з Расіяй як стратэгічным партнёрам па гэтак званай Саюзнай дзяржаве. Нічога дзіўнага тут няма: інтэграцыйныя абдымкі будуць працягвацца да таго часу, пакуль дзве краіны канчаткова не задушаць адна адну – або пакуль не зменіцца кіраўніцтва Беларусі.

На другое месца было пастаўленае эфемернае ўтварэнне пяці СНД-шных дзяржаваў – Еўраазіяцкая эканамічная супольнасць, створаная ў кастрычніку гэтага года ў Астане на магіле Мытнага саюза. Удзельнікі – тыя ж: Беларусь, Расія, Казахстан, Кыргызстан і Таджыкістан. Можна яшчэ нешта казаць пра эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй (якое, дарэчы, ужо запланаванае ў прыярытэце №1), але што агульнага ў нас можа быць з іншымі цэнтральнаазіяцкімі краінамі-членамі ЕАЭС? Яны не маюць ні стратэгічнай сыравіны (за выключэннем, бадай што, Казахстана), ні дастатковых фінансавых рэсурсаў, каб набываць нашу прадукцыю. У лепшым выпадку нашае супрацоўніцтва будзе ісці па мадэлі «СССР-В'етнам» або «СССР-Гандурас». ►

Заканчэнне на стар.3

## «Выполнят любой приказ...»

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Информационные поводы, как правило, неожиданны и непредсказуемы. Анонимный звонок домой тележурналисту Леониду Миндлину стал информационным поводом для разговора о взаимоотношениях, которые складываются между спецслужбами, СМИ и отдельными журналистами.**

— Звонок раздался вечером, и некий человек, не называя себя, попросил о встрече. Когда я спросил, в чем дело и о чем он хочет говорить, аноним ответил, что это — не телефонный разговор. Такие звонки случались и прежде, после появления фильмов «Обыкновенный президент» и «Страх» или после очередной публикации в газетах. Мы встретились, и незнакомец сообщил мне, что некая служба (не называя какая) считает, что я располагаю материалами, которые Дмитрий Завадский снимал в тот период, когда работал оператором президента. Должен сказать, что я был удивлен, поскольку я знаю, что Дима был человеком честным и аккуратным, и в любом случае, уходя не стал бы уносить с собою камня за пазухой. Кроме того, меня принципиально не интересует видеокомпромат типа «человек, похожий на Скуратова».

***— Получила ли эта история продолжение?***

— Пока нет, но для меня стало несомненным, что существует какая-то очередная оперативная разработка, в которую я попал. Я думаю, что все мы в той или иной степени находимся в таких разработках, и в связи с этим у меня возникло желание систематизировать все, что происходит между журналистами и спецслужбами.

Собственно, во всем мире журналист является для власти своего рода источником повышенной опасности.

***— К какому времени вы предлагаете отнести начало этих взаимоотношений?***

— К концу 1994 года. Первый период я бы охарактеризовал, как попытку консенсуса. Этот «романтический» период продолжался с лета 1994 до весны 1995 года. Тем не менее стремление контролировать и по возможности манипулировать ощущалось уже тогда.

***— Этот период был «романтическим» потому, что не возникало острых ситуаций, или потому, что в спецслужбах были люди, которые пытались искать общий язык?***

— В то время еще не сформировалась государственная политика. Помнится, один причастный к работе с прессой товарищ предложил тогда идею — раз в две недели приглашать журналистов на чай с президентом, где они могли бы в неформальной обстановке получить ответы на свои вопросы. Он же предложил оборудовать в Общественно-политическом центре на Октябрьской, 5 офисы для корреспондентов, представляющих зарубежные СМИ. Офисы предполагалось сделать удобными и сдавать их за умеренную плату, но, насколько я знаю, их собирались напичкать аппаратурой, которая бы снимала всю информацию, которая отсюда идет, и более того, слушать, что делается в самих помещениях. По разным причинам это не получилось, и проект угас. ►

Окончание на стр.7

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ (017) 228-69-18**

**Шаноўныя чытачы!**
Запрашаем вас прыняць удзел у ГАРАЧАЙ ЛІНІІ з галоўным рэдактарам НАШАЙ СВАБОДЫ **Паўлам ЖУКОМ.**



Вы зможаце задаць любыя пытанні ў аўторак, **12 снежня з 12.00 да 14.00** па тэлефоне **228-69-18.**
**Тэлефануйце!**

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1200**

